*Інтэрв'ю з Генадзем Карпенкам (стар. 2)*
*Калі карціны крадуць, значыць гэта некаму трэба. Каму? (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 93 000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

19 студзеня 1996 г. №3 Кошт свабодны

# Што значыць партыйная дысцыпліна!

## *У парламенце пакуль перамагае фракцыйная салідарнасць*

Напэўна, для Аляксандра Лукашэнкі балючай неспадзяванкай стала тая зладжанасць і ўзгодненасць, якую дэманструе новы Вярхоўны Савет (прынамсі, у кадравых пытаннях). Можна ўявіць, з якімі пачуцьцямі прэзідэнт у сваім кабінеце бачыць у тэлеманіторы, як амаль аднагалосна, дэпутаты абіраюць у намеснікі спікера Генадзя Карпенку. Прынцып партыйнай салідарнасці, які ў пэўных сітуацыях можа стаць прычынай унутраных непаразуменьняў у фракцыях, пры ўзаемадзеянні розных палітычных сілаў пакуль спрацоўвае ўніверсальна і беспамылкова.

Даволі ярка і красамоўна фракцыйнае супрацоўніцтва паказала сябе пры прыняцці зменаў у рэгламенце. Гэты, здавалася б, руцінны дакумент, на самой справе мае велізарнае значэнне, бо менавіта ад яго залежыць, напрыклад, з каго будзе складацца і як будзе абірацца Прэзідыум Вярхоўнага Савета. Змены ў рэгламенце, якія ад імя ініцыятыўнай групы прадставіў лідэр камуністаў Сяргей Калякін, відавочна, "працавалі" на карысць большай структурызаванасці, арганізаванасці – а значыць, і самакіруемасці Вярхоўнага Савета.

Адным з самых прынцыповых было пытанне аб 50-працэнтным кворуме для адкрыцця паседжання Вярхоўнага Савета. Варта нагадаць, што ў старым парламенце гэты кворум складаў дзве трэція і часта (пераважна па пятніцах) сумленныя народныя абраннікі вымушаныя былі разыходзіцца па дамах, так і не распачаўшы працу з прычыны адсутнасці сваіх недысцыплінаваных калегаў. Восенню ж мінулага года стары парламент з адсутнасці кворума ўвогуле не мог сабрацца на працягу некалькіх месяцаў.

Неабходнасць прыняцця новага ўзроўню кворума выдатна дэманструюць і такія лічбы: сярод 197 абраных дэпутатаў у новым Вярхоўным Савеце 37 з'яўляюцца прадстаўнікамі органаў улады, яшчэ каля 40 – працуюць (а часцей кіруюць) на дзяржаўных прадпрыемствах. Калі ў нейкі гіпатэтычны час "х" паступіць загад ад самага "вертыкальнага вертыкальшчыка", нават палова ад гэтых дэпутатаў пры старой норме кворума сваёй няяўкай магла б пазбавіць Вярхоўны Савет дзеяздольнасці. Дэпутаты-партыйцы, якія пераважна маюць намер працаваць у ВС на прафесійнай аснове, разумеючы ўсё гэта, прапанавалі новую лічбу кворуму ў 50 % ад абраных дэпутатаў.

Вядома, што Лукашэнка ўжо выказаў сваё рэзкае адмоўнае стаўленне да 50-працэнтнай нормы, таму вынікі галасавання па гэтым пытанні (138 "за" і 39 "супраць") яскрава прадэманстравалі, наколькі сёння ў парламенце слабая пазіцыі выразна прапрэзідэнцкай групы. Затое цяпер пазбавіць Вярхоўны Савет кворуму не змогуць нават усе дэпутаты-вертыкальшчыкі, разам узятыя.

Праігнараваў таксама парламент і пажаданне прэзідэнта, каб у Прэзідыум ВС былі ўведзеныя прадстаўнікі "тэрытарыяльных аб'яднанняў" – інакш кажучы, абласцей. Дэпутаты, аднак, лагічна вырашылі, што ў нас не федэратыўная дзяржава, і нават не паставілі гэтую прапанову на галасаванне.

У рэгламент таксама было ўнесена палажэнне, паводле якога толькі фракцыя колькасцю не менш за 30 чалавек будзе мець свайго прадстаўніка ў Прэзідыуме. Тут ужо з пазіцыі сілы дзейнічалі тры буйнейшыя фракцыі Вярхоўнага Савета: аграрыі, камуністы і "Згода". Прадстаўнікі "Грамадзянскага дзеяння" і Сацыял-дэмакратычнага Саюза, вядома ж, заявілі, што гэтая норма дыскрымінуе іншыя, менш масавыя фракцыі, але зрабіць нічога не здолелі. Пры ўсёй папулярнасці Багданкевіча, яго фракцыя ніяк не можа сабраць больш за 20 "афіцыйных" сябраў, таму ў аўторак ужо пачаліся кансультацыі пра магчымасць аб'яднання "грамадзянаў" і сацыял-дэмакратаў (16 чалавек).

Такім чынам, паводле новых нормаў рэгламента, Прэзідыум будзе складацца з наступных асобаў: старшыні, першага намесніка, двух намеснікаў, лідэраў фракцый колькасцю не менш за 30 чалавек плюс яшчэ два дэпутаты. Пачаўшы працэдуру абрання віцэ-спікераў, партыйцы зноў змаглі прадыктаваць Вярхоўнаму Савету свае падыходы. 103 дэпутаты (для прыняцця рашэння неабходна 99) прагаласавалі за выбары намеснікаў спікера агульным адзіным спісам. Мэта такога спосабу галасавання відавочная – гарантаваць праходжанне ўсіх трох загадзя абгавораных кандыдатаў. Больш таго, 124 дэпутаты падтрымалі неабходнасць правесці выбары намеснікаў старшыні шляхам паіменнага галасавання. Пры гэтым Сяргей Калякін даволі канкрэтна растлумачыў, што адкрытае галасаванне неабходнае для праверкі, ці выконваюць дэпутаты ад фракцыяў папярэднія дамоўленасці.

Як вядома, сістэма "партыйнага сумлення" спрацавала выдатна: спіс у тры намеснікі падтрымалі 175 дэпутатаў, што, напэўна, з'яўляецца рэкордам аднадушнасці ў кароткай гісторыі беларускага парламентарызма. Такім чынам, Лукашэнка цяпер мае справу не з групай запалоханых людзей, злучаных толькі жаданнем атрымаць малечкую пасаду ў структурах выканаўчай улады, а з добра арганізаваным, кіруемым сваімі лідэрамі сходам з выразным імкненнем рэалізаваць свае палітычныя і ідэалагічныя прынцыпы, якіх не адолееш "кавалерыйскім наскокам". Варта чакаць, што ў бліжэйшы час прэзідэнцкая каманда ўвесь свой аналітычны патэнцыял будзе трацiць на пошукі таго, чым можна было б пасварыць паміж сабой розныя палітычныя сілы ў Вярхоўным Савеце...

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

*Дэпутаты-паплечнікі Васіль Новікаў і Аляксей Камай*

*Камуніст В.Шчукін – адзін з самых каларытных дэпутатаў ВС*

*Урадавы сектар: М.Чыгір, М.Мясніковіч, В.Шэйман, І.Ціцянкоў*

# Лёс курса долара вырашаны?

**Пасля амаль паўгадавых дыскусій пра неабходнасць дэвальвацыі беларускага рубля паміж самымі рознымі палітычнымі і эканамічнымі сіламі нарэшце прынятае хоць нейкае рашэнне па гэтым пытанні.**

Выступаючы 16 студзеня па тэлебачанні, прэзідэнт заявіў аб тым, што да 1 ліпеня будзе ўведзены валютны калідор для курса долара, гэта значыць, цяпер у ходзе таргоў на Міжбанкаўскай валютнай біржы каціроўкі долара могуць змяняцца ў рамках ад 11.300 да 13.100 рублёў. Такім чынам, за аснову палітыкі ўтварэння курса ўзяты расійскі вопыт, скарыстацца якім прапаноўвалі ўжо даўно і не адзін раз, у тым ліку і настолькі нелюбімы Лукашэнкам Станіслаў Багданкевіч.

Аднак нягледзячы на некаторы прагрэс у асэнсаванні эканамічнай сітуацыі Аляксандрам Лукашэнкам, хочацца заўважыць, што падобнае рашэнне ўсё ж такі не вызначаецца асаблівай эфектыўнасцю. Пад пытаннем пакуль застаецца, як стануць дзейнічаць на рынку банкі – ці задаволяцца яны максімальнай граніцай курса, што, улічваючы сённяшнюю сітуацыю ў эканоміцы і ў фінансавай сферы і перспектывы, а таксама даволі працяглы перыяд калідора, даволі сумнеўна. А гэта значыць, што не будзе вырашана адна з важнейшых задачаў – захаванне рэштаў (калі такія яшчэ ёсць) валютных рэзерваў Нацыянальнага банка і іх папаўненне, бо менавіта яны з'яўляюцца важнейшым фактарам падтрымкі ўстойлівага курса рубля. Уводзіць валютны калідор трэба было значна раней – яшчэ на пачатку восені, калі валютныя накапленні галоўнага банка рэспублікі не былі яшчэ настолькі вычарпаныя.

Наўрад ці ад гэтага рашэння выйграюць і экспарцёры – каб аднавіць страчаную рэнтабельнасць амаль спыненых заводаў, наўрад ці хопіць рамак калідору. Яшчэ адзін бок зацікаўлены ў дэвальвацыі –частка камерцыйных банкаў таксама не зможа многа атрымаць ад вузкіх рамак валютнага калідора, хаця найбольш эфектыўныя з іх, магчыма, будуць у стане праводзіць прыбытковыя спекулятыўныя аперацыі. Зарабляць як раней, да фіксацыі курса, ужо немагчыма. Схема, пры якой прыбытак зарабляецца за кошт атрымання танных (працэнтная стаўка па якіх ніжэй як тэмпаў інфляцыі, так і тэмпаў росту курса долара) крэдытаў ад Нацбанка, укладаў ад прадпрыемстваў і насельніцтва і пераводу іх у валюту, курс якой расце апераджальнымі тэмпамі, ужо нерэальна.

Станоўчым у такім рашэнні з'яўляецца перадусім яно само – гэта значыць, канчаткова ясна, якім хоча бачыць курс долара А.Лукашэнка, і такім чынам, якім ён будзе на МВБ. Здаецца, вядома, чаго чакаць. Аднак і тут выклікае сумнеў, ці застанецца ён такім і на "чорным" рынку. Цалкам магчыма, што кантралёрам, якія адсякаюць біржавыя заяўкі на пакупку долараў, давядзецца настойліва працягваць сваю працу. І будуць існаваць два курсы – рэальны "чорны" курс і біржавы, у рамках калідора. Больш урадлівай глебы для карупцыі немагчыма нават уявіць. Аднак пакуль застаецца толькі чакаць далейшага развіцця падзей. Толькі час вызначыць, па якім сцэнарыі яны будуць адбывацца.

**Алесь САДОЎСКІ**

# «Селянін» Кебіч і «беспрацоўны» Калякін

**Забаўна запоўнілі "анкету дэпутата" некаторыя новыя парламентары.**

Натуральна, што ў графе "сацыяльнае становішча" большасць народных абраннікаў сумленна напісала "служачы". І толькі Вячаслаў Кебіч вырашыў, відаць, прадэманстраваць сваю непарушную еднасць з народам, упісаўшы ў гэтую графу слова "селянін". Адразу ж мроіцца драматычна-маляўнічая карціна: кожную раніцу, адзеўшы боты і ватоўку, Вячаслаў Францавіч выходзіць на калгасныя палеткі, цяжкай фізічнай працай зарабляючы сабе на хлеб надзённы.

Не менш трагічныя думкі могуць прыйсці пасля знаёмства з анкетай лідэра камуністаў Сяргея Калякіна. Першы сакратар ЦК ПКБ з болем у душы у той жа графе "сацыяльнае становішча" ўпісаў "беззаботный". Праўда, потым закрэсліў і паправіў на "служащий". Калякіна можна зразумець – сапраўды, нельга ж працу першага сакратара Партыі камуністаў лічыць сур'ёзным заняткам!

Увогуле, з даведачнай інфармацыі пра новых дэпутатаў можна пачарпнуць шмат цікавага. Напрыклад, Сямён Шарэцкі жыве ў адным з самых далёкіх і непрэстыжных раёнаў Мінска – у Малінаўцы, на вуліцы Рафіева. Дарэчы, каля яго кватэры ўжо паставілі пост аховы. Застаецца толькі пачакаць, праз колькі месяцаў (ці гадоў?) старшыня Вярхоўнага Савета палепшыць свае жыллёвыя ўмовы.

**Віталь ЦІКАЎНЫ**

СВАБОДА
19 студзеня 1996 г., №3

## У Беларусі аднавілі стары лозунг: «Ніводнага свята без рэкорда!»

**Якая ўлада не любіць ашчасліваць свой народ (а заадно і сабе) перадсвяточнымі падарункамі? Вось і прэзідэнта Лукашэнку хлебам не кармі, а дай пакрасавацца на экране падчас цырымоніі адкрыцця ці запуску чагосці новага. А паколькі нічога сур'ёзнага ў апошнія месяцы не "запускалі", даводзіцца хапацца за тое, што падсоўваюць.**

Напярэдані Новага года прэзідэнту падсунулі... "соты новы тралейбус", быццам бы выпушчаны мінскім вытворчым аб'яднаннем "Белкамунмаш". Як па сакрэце паведамілі рабочыя прадпрыемства, на самай справе гэта быў 81-шы тралейбус, калі лічыць толькі машыны новай мадэлі.

Нагадаем, што падчас сваёй першай экскурсіі на "Белкамунмаш" у сярэдзіне года Лукашэнка загадаў сабраць да канца года 100 такіх тралейбусаў, але гэты загад ад пачатку быў блефам, бо прадпрыемства не валодае адпаведнымі магутнасцямі. Вось і атрымалася, што са 127 выробленых да канца снежня машынаў толькі 80 былі сапраўды новай мадэлі. Але кіраўніцтва прадпрыемства не разгубілася – паднаціснулі і хуценька сабралі 81-шы, прычапілі да яго шыльдачку "соты" і паклікалі на свята Лукашэнку. Як стала вядома, толькі ў мінулыя выходныя са "стапеляў" "Белкамунмашу" сыйшоў сапраўды соты тралейбус.

Дарэчы, магчымасці ставіць новыя рэкорды ў прадпрыемства на гэтым не скончыліся. Атрыманы загад сабраць у новым годзе ажно 500 новых машын, але сённяшнія магутнасці такому загаду не адпавядаюць. Напрыклад, на "Белкамунмашы" усяго толькі адна сушыльная камера з прадукцыйнасцю 1 тралейбус у дзень. Што рабіць? Можа, дадумаюцца павялічыць колькасць дзён з 365 да 500, а на адкрыццё такога новага года запросяць прэзідэнта? Няўжо не пойдзе?

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Уратуем саўгас «Гарадзец»!

**Нават на радзіме Лукашэнкі, нягледзячы на ўсе намаганні прэзідэнта, не хочуць "запускацца" прадпрыемствы.**

У Шклове цяпер стаіць без працы практычна ўся мясцовая прамысловасць: папяровая і мэблевая фабрыкі, сельгасхімія, райаграпрамтэхніка, маслазавод.

Усе калгасы і саўгасы Шклоўшчыны надзейна "сядзяць" на банкаўскай картатэцы, маючы мільярдныя даўгі. Адзін толькі саўгас "Гарадзец", якім кіраваў "бацька", мае запазычанасць у 2 мільярды рублёў.

**Аляксандр ШЧАРБАК**

## Чвэрці магілёўцам у 1996 працы не будзе

**Імкліва пачало расці ў Магілёве беспрацоўе.**

Калі яшчэ ўвосень 1995 года ў цэнтры занятасці рэгістравалася за месяц па 600–700 новых беспрацоўных, то са снежня гэтая лічба перавысіла 1.000 чалавек. Прагнозы на 1996 год самыя несуцяшальныя – беспрацоўных будзе 50 тысяч чалавек, або 25 % працаздольнага насельніцтва.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Дыпламаваныя кандуктары

**Новай прафесіі пачне навучаць беспрацоўных Магілёўскі цэнтр занятасці.**

Падабраных па спецыяльных тэстах самых абаяльных і камунікабельных беспрацоўных навучаць прафесіі ... кандуктара. Гэтыя "вучоныя" кандуктары будуць не толькі валодаць правіламі ветлівасці, але і прыёмамі першай меддапамогі, навучацца, у дадатак да ўсяго, гучна і выразна абвяшчаць прыпынкі. Як лічаць спецыялісты цэнтра, іх выхаванцам гарантаванае працоўнае месца ў салоне аўтобуса ці тралейбуса.

**Іван ЗАСАДА**

## Кінасексу больш не будзе!

**Магілёўскі гарвыканкам вырашыў дамагчыся, каб у горадзе не глядзелі парнаграфічнага кіно.**

У рашэнні, прынятым у развіццё прэзідэнцкага ўказа па барацьбе са злачыннасцю, выканкам даручыў праверыць усе відэасалоны, кінатэатры і дыскатэкі. Сам гарвыканкам не канкрэтызуе сваіх патрабаванняў да кіно, а даручае гарадскім райвыканкамам правяраць і прымаць меры, каб парнаграфічных і сексфільмаў у Магілёве не было. Як кажуць, пайшлі лісты шамацець.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Няма жыцця ваўку ў лесе. І там б'юць

**Чатырох ваўкоў здолела забіць за раз брыгада паляўнічых у Магілёўскім раёне каля саўгаса "Дасовічы".**

Шасцёра драпежнікаў,што жылі ў сваім кубле побач з саўгасам, літаральна "затэрарызавалі" гаспадарку. За пару тыдняў шэрыя задралі шэсць вялікіх дарослых свіней, чатырох парсючкоў і каля дзесятка цялят.

Пасля таго, як павысіўся кошт забітага ваўка, актывізавалася паляванне на яго. Напрыклад, згаданая брыгада забіла ўжо восемдзесят звяроў.

**Іван ЗАСАДА**

# Калі карціны крадуць, значыць гэта некаму трэба. Каму?

## *Летась было скрадзена больш за 30 твораў мастака Аляксандра Ісачова*

Крадзеж карцін мастака Ісачова зрабіўся самай гучнай і скандальнай справай культурнага жыцця мінулага года. Разбойны напад на кватэру мастака прывёў да таго, што прозвішча Ісачова, якое праз восем гадоў пасля яго смерці паціху пачало забывацца, зноў замільгала на старонках газет.

Аляксандр Ісачоў (1955–1987) нарадзіўся ў Рэчыцы. Ужо з дзяцінства праявіўся яго мастацкі талент: на конкурсе дзіцячых малюнкаў у Жэневе яго работы атрымалі дыплом. Але амаль у той жа час у Ісачова пачынаюцца непрыемнасці. За тое, што ён перафарбаваў валасы, яго выключылі з мінскай мастацкай школы для адораных дзяцей. Мастак вяртаецца ў Рэчыцу.

Потым – ленінградскі перыяд, у час якога адбываецца станаўленне Ісачова як вельмі своеасаблівага мастака. Тусуючыся ў колах ленінградскай багемы, ён падтрымлівае сувязі з так званымі дысідэнтамі, дзейнасцю якіх вельмі цікавіліся "органы". Некаторыя з іх у хуткім часе з'ехалі на Захад. Ісачоў жа зноў вяртаецца на радзіму. І хаця ў яго дзеяннях не было аніякага крыміналу, за ім цвёрда замацаваўся ярлык "недобранадзейнага".

Да пачатку гарбачоўскай перабудовы ён фактычна з'яўляецца беспрацоўным, улады ставяцца да яго вельмі насцярожана, а пасля таго, як ён робіць роспіс у некалькіх цэрквах, увогуле займаюць пазіцыю глухога непрыняцця яго творчасці.

Толькі дзякуючы тым зменам, якія адбыліся ў СССР з прыходам Гарбачова, мастак атрымлівае магчымасць зрабіць сваю першую афіцыйную выставу ў Рэчыцы. Яе шумны поспех прымушае звярнуць увагу на Ісачова як на самабытнага, ні на каго не падобнага мастака. Але неўзабаве ён памірае. Тым часам пасмяротная яго слава набывае неверагодны размах. Мабыць, многія з мінчан памятаюць тыя аграмадныя чэргі, той ажыятаж, які меў месца падчас Ісачоўскіх выставаў у Мінску. Творчасць мастака выклікала вялікую колькасць спрэчак. Думкі былі самыя разнастайныя – ад поўнага непрыняцця да фанатычнага пакланення. Вядома, што палотны мастака, напісаныя пераважна на міфалагічныя і біблейскія сюжэты ў стылі гладкапісу, не маглі застацца незаўважанымі ў той час. Але з цягам часу ажыятаж вакол Ісачова спадае, і толькі каляндарыкі ды плакаты з выявамі твораў мастака, якія ў неверагоднай колькасці распаўсюджваліся ў Мінску, нагадвалі пра яго.

І вось у мінулым годзе пра Ісачова загаварылі зноў, але гэтым разам не ў сувязі з творчасцю мастака, а з прычыны крымінальных здарэнняў вакол карцін Ісачова.

У маі 1995 г. невядомыя скралі карціны з дому маці мастака – знікла каля дваццаці разнастайных твораў.

Праз паўгода, у снежні, новае рабаўніцтва: чацвёра злодзеяў уварваліся ў рэчыцкую кватэру мастака і, скруціўшы ягоную дачку, вынеслі з дому 14 твораў. Быў выкрадзены таксама архіў слайдаў, на якія былі знятыя амаль усе карціны, напісаныя мастаком.

Прэса абвясціла гэтае здарэнне "крадзяжом года" і нават ацаніла скрадзеныя карціны ў мільён даляраў.

А што думаюць на гэты конт кампетэнтныя людзі?

**Валеры Даўгала,** *намеснік старшыні Саюза мастакоў Беларусі:* "Адказаць канкрэтна, колькі сёння каштуюць карціны, проста немагчыма, бо ў нашай краіне рынак мастацкіх твораў знаходзіцца ў стадыі фарміравання. І, на жаль, "правілы гульні" на ім дыктуюць не мастакі".

**Вольга Каваленка,** *загадчыца аддзела сучаснага мастацтва Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі:* "Я не з'яўляюся прыхільніцаю творчасці Ісачова, але несумненна: ён – таленавіты мастак. І тое, што ў нашым музеі няма аніводнай ягонай работы, мне здаецца няправільным. Але ад нас тут мала што залежыць, бо калекцыю музея фарміруе экспертная камісія Міністэрства культуры".

**Надзея Зелянко,** *мастацтвазнаўца:* "На маю думку, лічба ў 1 млн. даляраў значна завышана. Для Беларусі гэта проста фантастычная сума. Таму мне не зразумела, чым кіраваліся тыя людзі, што арганізавалі крадзеж. Не думаю, каб за крадзеныя карціны хто-небудзь даў значныя грошы. Здаецца, што злодзеі апынуліся ў палоне легендаў, звязаных з імем Ісачова, і іх чакаюць значныя расчараванні".

Ну а далейшы лёс карцін? Давайце паразважаем. Пакуль здаюцца магчымымі чатыры варыянты разгортвання падзей.

**Варыянт першы.** Злодзеі паспрабуюць пераправіць гэтыя карціны на Захад, ведаючы, што некалі яны там добра прадаваліся. Але дзеля гэтага трэба мець за мяжой пэўныя сувязі, бо мастацкія творы – гэта не рэчы шырспажыву, якія можна вынесці на варшаўскі базар і чакаць, пакуль збягуцца зацікаўленыя пакупнікі.

**Варыянт другі.** Крадзеж учынены на заказ нейкага прыватнага калекцыянера з Беларусі. Тады гэтыя карціны асядуць у ягонай калекцыі, і далейшы іх лёс вядомы толькі Богу. У пацверджанне гэтай версіі гаворыць і той факт, што літаральна праз тыдзень пасля крадзяжу ў Рэчыцы скралі яшчэ адну карціну з прыватнай галерэі ў Санкт-Пецярбургу. Супрацоўнікі гэтай галерэі сцвярджаюць, што напярэдадні нейкія людзі, адрэкамэндаваўшыся аматарамі творчасці Ісачова з Беларусі, цікавіліся працамі мастака.

**Варыянт трэці.** Вельмі падобны на другі, толькі з той розніцай, што карціны выкрадзены на заказ нейкага "тугога кашалька", які вырашыў такім чынам выгадна ўкласці свой капітал, каб у будучым, калі ўсё сціхне, прадаваць іх па адной.

**Варыянт чацвёрты.** Найбольш камерцыйны і тонкі. Крадзеж карцін – не мэта, а сродак, з дапамогай якога, па-першае, вакол імя Ісачова зноў уздымаецца ажыятаж; па-другое, гэтым запалохваюць прыстойных грамадзянаў, у якіх захоўваюцца карціны мастака, і гэтае "паляванне на Ісачова" прымушае іх выставіць на продаж творы, зрабіўшы такім чынам нейкі "рынак Ісачова". А ў гэты час наладзіць на аснове невыпадкова скрадзенага архіва слайдаў выпуск фальшывак, арыгіналы якіх знаходзяцца, напрыклад, за мяжой. А далей сцэнарыі могуць быць самыя разнастайныя. Напрыклад, з'явяцца "невядомыя" карціны мастака, альбо каму-небудзь з "новых беларусаў" будзе падсунуты "вельмі вядомы", але крадзены твор (не панясе ж ён яго на экспертызу да крыміналістаў). Карыстаючыся архівам у некалькі сот слайдаў, ой колькі цікавага можна зрабіць!

Але ўсё гэта версіі. А калі вярнуцца да рэаліяў, сапраўды малаверагодна, што карціны будуць знойдзены. Можа здарыцца так, што ў адзін дзень на радзіме мастака не застанецца ніводнага яго твора, і нашы дзеці будуць знаёміцца з творчасцю Ісачова па рэпрадукцыях, змешчаных у замежных альбомах.

**Алесь РАЙЧОНАК**

**А.Ісачоў**
**Аўтапартрэт, 1986-87 гг.**
**(скрадзены ў 1995 г.)**

**А.Ісачоў**
**Алегорыя мастацтва, 1983-85 гг.**
**(скрадзены ў 1995 г.)**

*Рэпрадукцыі з альбома «Alexander Isachev»*

